А таму — асабліва прыемна прачытаць у тым органе Б.Б., які „дае тон“, як кажуць, усей про-урадавай прэсе, пажаданьне прыняцьця ўрадам такога прынцыпу меншасьцёвай палітыкі ў Польшчы. Астаецца толькі пажадаць, каб так выразна і рашуча падмураваны прынцып таксама рашуча праводзіўся ўрадам на дзеле, чаго дагэтуль мы ня бачым. Бо-ж — ці трэба тлумачыць?—калі дзяржава будзе аднолькава прыхільна і справядліва трактаваць усе свае меншасьці, шануючы ў іх чалавечую і нацыянальную душу іх, дык таксама і меншасьці будуць аднолькава сільна і ўдзячна прыхіляцца да дзяржавы і шанаваць яе. А на „дыфэрэнцыяльны тарыф“ будзе ў сутнасьці такі-ж „дыфэрэнцыяльны“ адказ... І выкарыстаньне тымчасовай слабасьці „найслабейшай з нацыянальных меншасьцяў“ Польшчы з крыўдай для гэтай меншасьці ніколі на карысьць дзяржавы ня выйдзе.

# Нарадзіны новай буржуазіі у СССР.

У англійскай газэце „Таймс“ італьянскі публіцыст Скарфоліо, які езьдзіў у СССР, дае цікаўны агляд усіх „пасьпехаў“ пяцілеткі і тэй ролі, якую яна мае адыграць у... **стварэньні новай буржуазіі ў СССР**.

Пяцілетка, — піша гэты цьвярозы наглядчык, — ёсьць выключна прамысловая спроба, гаспадарчае прадпрыемства радавага ўраду ў дзяржаўным маштабе, дык з камунізмам ня мае нічога супольнага. Але пяцілетка глыбака перакопывае векавую цаліну вялізарных сялянскіх краінаў СССР, **раскладаючы яе на соцыяльныя клясы**... Пяцілетка, стаўляючы перад камуністычным урадам чыста гаспадарчыя задачы, змусіла яго ўжо да скасаваньня цэлага раду запраўды камуністычных загадаў, уведзеных у першыя гады пасьля здабыцьця камуністамі ўлады ў Расеі, як роўнасьць у працы і ў плаце за працу („уравниловка“) і т. д. Цяпер барацьба ўраду за „чысьціню генэральнай лініі“— толькі фікцыйная. Праўда, урад добра разумее ўсю небясьпеку гэтага боку пяцілеткі, але прымае ўсе меры, каб недапусьціць да **стварэньня новых клясаў** у лоне „работніцка-сялянскай дзяржавы“, але — **чыста гаспадарчае заданьне пяцілеткі ламае ўсе гэтыя пярэчачыя яму высілкі ўраду**...

І запраўды-ж: толькі што пасьпеў паявіцца гэты артыкул італьянскага наглядчыка, як з Масквы прыйшла новая вестка аб „**ускрашэньні Нэпу**“ ці даволі ўжо шырокага дазволу **вольнага гандлю**, у першую чаргу — прадуктамі земляробства. Да гэтай меры прымусіў Сталіна **голад**, які прыняў вельмі шырокія і небясьпечныя разьмеры. Праўда, гэты па сутнасьці **прыватны і вольны гандаль** носіць пакуль-што назоў „соцыялістычнага“, але-ж гэта не зьмяняе рэчы. Рэч-жа — ў тым, што кожын хлебароб, ці ён належыць да калгасу, ці вядзе прыватную сельскую гаспадарку, атрымаў права прадаваць з вольнае рукі збожжа ды іншыя вясковыя прадукты на прыватным рынку.

Вынікі гэтых разумных, але выкліканых толькі паўсюдным голадам мераў далі неўзабаве адчуць сябе на ўсім прасторы СССР. Зараз-жа цэны на ўсе прадукты сельскае гаспадаркі пачалі спадаць, пустыя да таго рынкі ў местах напоўніліся, народ павесялеў. Адначасна ў лоне „каманднай вярхушкі“ СССР здабылі перавагу прадстаўнікі „сялянскай апазыцыі“ Калінін, Рыков, Бухарын і інш. У вострай сутычцы Калініна з прэм'ерам Молатавым і Кагановічам, якія лічацца найбліжэйшымі памоцнікамі Сталіна, перамог Калінін, падтрыманы самім Варашылавым, які блізу адзін з усіх „саноўнікаў“ СССР мае адвагу і магчымасьць, апіраючыся на прыхільную да яго чырвоную, у сваім галоўным масыве сялянскую, армію, мець уласны суд аб усім ды пярэчыць востра „аж самому Сталіну“...

Апошнія весткі кажуць ужо аб рашучым павароце Сталіна ад камунізму і навет ад „дзяржаўнага сацыялізму“ **да звычайнага буржуазнага ладу**, да так-званага „частника“, ці прыватнага прамыслоўца і гандляра, які мае ратаваць **камуністычную дзяржаву ад катастрофы развалу і голаду**, да якое давялі яе абодва сталінаўскія „апараты“: партыйны і бюракратычны. Сама „вярхушка“ Ком-Партыі мае прыняць новы — „ленінаўскі“ (ужо не „сталінаўскі“!) дэкрэт — „**аб дазволе поўнай свабоды прыватнага гандлю ў мясцовасьцях з насяленьнем звыш 50.000 чалавек**“, а так-жа— аб пашырэньні правоў „**частника**“ ўва ўсіх іншых мясьцовасьцях.

Прыватны гандаль на вёсцы, канкуруючы з казённай кооперацыяй, будзе ўсюды, дзе сель-савет адобрыць кандыдата-гандляра. Але, калі той ужо атрымае дзяржаўны патэнт на права гандлю, тады ўжо сель-савет траціць права яго выкінуць. Таксама мае быць і з прыватнымі рамесьніцкімі і прамысловымі прадпрыемствамі з капіталам да 100 тысяч руб., якім будзе забясьпечана свабода арганізацыі і дзеяльнасьці.

Характэрная тая строгасьць, з якой новы дэкрэт папераджае, каб усе партыйныя і дзяржаўныя органы нагляду ці фіску (скарбу) сумленна выконывалі загады дэкрэту ,не сьціскаючы свабоды гандлю. Усялякае надужыцце імі сваей улады будзе — пад спецыяльным наглядам Г.П.У. — безадкладна скіроўвана да пракуратуры і будзе карана як **саботаж і контр рэвалюцыя**... Побач з гэтым мае быць выдачы новы дэкрэт, які дзяржаўнай пракуратуры дасьць поўню ўлады, а навет зробіць быццам самае Г.П.У. яе прыладай! Адначасна — пад дзіўныя ў радавай прэсе выхваляньні „індывідуальнай вартасьці чалавечай адзінкі“ мае быць выдана ком-партыяй адозва — загад да ўсіх „партийцев“ каб іх рады выявілі „максімум зразуменьня дзяржаўнай думкі партыі і ўраду і з найвялікшай дысцыплінай выканалі новыя дэкрэты“, каб уся партыя, як адзін чалавек, была прыгатавана да найважнейшых выпадкаў у жыцьці Саветаў і... камунізму“... Каб аднак-жа не завялося дзе-недзе якой новай апазыцыі ці „скрыўленьня лініі“, Г. П. У. атрымала загад тасаваць чым шырэй так-званы „прызыў да ўдарнікаў“. Гэты „прызыў“—гэта назначаньне найбольш адказных і важных мясцовых „саноўнікаў“ на розныя прымусовыя работы „в ударном порядке“ — пад наглядам паліцыі і чырвонаармейцаў, як у часе „ваеннага камунізму“ ганялі буржуяў...

# Палітычнае палажэньне у Нямеччыне.

**Адчыненьне новага парламанту.**

30 жніўня ўрачыста адчынены новы нямецкі парлямант. Характэрна, што адчыніла яго, як найстарэйшы сябра парляманту, ведамая камуністка Кляра Цэткін, якая дзеля гэтага спэцыяльна прыехала з Масквы. Спадзяваліся крывавых дэманстрацыяў з боку гітлераўцаў, але ўсё прайшло спакойна: яны далі камуністычнай правадырцы дасказаць да канца яе выдатна агітацыйную прамову, у якой яна востра бэсьціла і ўрад Папэна,

**Ант. Навіна** (А. Луцкевіч).

## Янка Купала, як Прарок Адраджэньня.

(Даканчэньне).

Купала ня толькі клікаў свой народ да адраджэньня, да барацьбы, але й *прадбачыў будучыну,* прадбачыў трыумф беларускае адраджэнскае ідэі, трыумф беларускіх працоўных масаў.

Ужо ў «Жалейцы» — сярод першых твораў Купалы — бачым верш, які мае ў сабе прароцтва. Гэта — верш «Пажалей», напісаны ў 1906 ці 1907 годзе. Узіраючыся на «Ня чурайся» Мацея Бурачка, і Купала зварачаецца да тых, хто «адзеты і сыты», з заклікам падаць руку гаротніку-мужыку і вывясьці яго на шлях да лепшага жыцьця; але пры гэтым Купала дае і перасьцярогу, прадвяшчаючы пазьнейшыя крывавыя падзеі:

Пажалей ты яго, сіраты,
Бо на сьвет многа прыйдзе бяды:
Бо за крыўду сваю адамсьціць,
— Сьвіньням будзе крыві не пабраць!
Адамсьціць, аж зямля задрыжыць,
Аж віхры зашумяць, загудзяць!...

А праз колькі гадоў пазьней — у зборніку «Шляхам жыцьця» — Купала прадвяшчае:

Глядзі: ўскалышацца, прачнецца
Мільённы прыспаны народ!...

і яшчэ:

К свабодзе, роўнасьці і знаньню
Мы працярэбім сабе сьлед,
І будзе ўнукаў панаваньне
Там, дзе сягоньня плача дзед!

Таксама і раней у «Гусьляры»:

Шлях залаты працярэбім,
Зорна ўзьнясёмся ў высоты —
Вышай няпраўды, няславы,
Вышай пакутных балотаў...

Заклінаньні народныя напамінае нам верш Купалы «Песьня-байка» у каторым поэта прадвяшчае прыход новых дзён:

З-за далёку, із усходу
Віхар мчыцца ў непагоду,
Байкі сее маладыя;
Думка чуе, думка ные ...
,... Ціха. Бачце: штось віднее,
Льецца нейкая надзея,
Штосьці едзе з новым сватам,
З новым шлюбам з хаты ў хату...

Скінь лахманец непазорны,
Пыл згані з ваконцаў чорны,
Пыл згані хутчэй з ваконца,
Шапні-клікні: сонца! сонца!

Быццам з песьняй, быццам з ласкай,
З чараўніцкай нейкай казкай
З-за далёку, із усходу
Віхар мчыцца ў непагоду...

А ведамы верш-гымн Купалы «Не загаснуць зоркі ў небе» — гэта ўжо запраўдны «акт веры й надзеі», што ня толькі «не загіне край забраны», але

Беларускаю рукою
Сьветлай праўды сіла
Славу лепшую напіша
Бацькаўшчыне мілай,

і Беларусь

Зацьвіце..., як сонца
Пасьля непагоды,
У роўнай долі, роўным стане
Між усіх народаў.

Як-жа рэальна ўяўляе сабе наш поэта зьдзейсьненьне ягоных прароцтваў?

Купала мамэнт рэалізацыі адраджэнскіх ідэалаў уяўляе сабе, як і пачатак беларускага руху ў рэволюцыйным 1905 годзе, у абразе «Вялікага Сходу«, усенароднага, масавага руху. На гэты «Вялікі

